Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 8 (57) Субота, 24-га Студня 1925 г. Год II.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць тры разы ў тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 1 злоты 80 гр. За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Людвісарская вул. дом № 4. (Wilno, Ludwisarska 4). Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак за радок пэтыту: на 1 стар. — 15 гр. у тэксьце — 10 гр. на апош. стар. — 5 гр.



## НАСТАЎНІКАМ,

якія зарэестраваліся ў Т-ве „Прасьвета“ (або раней у Школьнай Камісіі Часовае Беларускае Рады) прапануецца **пасьпяшыць з прысылкай дакумэнтаў** аб адукацыі і настаўніцкай службе па адрэсе: Вільня, Людвісарская вул. 4 Т-ва „Прасьвета“.

*Прэзыдыум Цэнтральнае Рады „ПРАСЬВЕТЫ“.*

## Жыцьцё і фармалізм.

14-га гэтага студня ў № 3 „Dziennika Ustaw“ Польскае Рэспублікі апублікована распараджэньне Міністра Рэлігіяў і Прасьветы за 7 студня 1925 г., выданае ў паразуменьні з Міністрам Унутраных Справаў і Міністрам Земляробства й Дзяржаўных Маемасьцяў на справе выкананьня закону 31 ліпня 1924 г., які зьмяшчае ў сабе некаторыя пастановы аб арганізацыі школьніцтва.

Праўда, што гэтае распараджэньне ня мае ў сабе тых момэнтаў, якія былі ў выканаўчых распараджэньнях да закону аб праве карыстацца роднаю моваю ў зносінах з адміністрацыйнымі ўрадовымі установамі, дзе вымагалася даказаць як сваю нацыянальную, так і дзяржаўную прыналежнасьць (obywatelstwo).

Але ў выканаўчым распараджэньні да школьнага закону таксама ёсьць незразумелыя момэнты, якія паводлуг нашае думкі маглі-б і не існаваць. Гэтак, напрыклад, закон вымагае, каб на заяве аб жаданьні вучыць дзяцей у школе на роднай матчынай мове было ня меньш, як 40 подпісаў. Паводлуг распараджэньня, кожны бацька (маці альбо апякун) дзяцей школьнага веку павінен **асобна** складаць дэклярацыю школьнаму інспэктару аб сваім жаданьні роднае школы. Праўда, што гэтак сама асобна (ад сябе асабіста) складае дэклярацыю школьнаму інспэктару і кожны той, хто хоча навукі ў школе на дзяржаўнай, г. знач. польскай мове.

На практыцы ўсе гэткія асабістыя дэклярацыі не зьявіліся-б ніякай труднасьцю тады, калі-б у нашым краі існаваў заходне-эўрапэйскі процэнт граматнасьці насяленьня. У мінулым, аднак-жа, маскоўскі царызм ня дбаў аб высокай граматнасьці насяленьня, а праз гэта грамадзкія справы сялянства рашаліся ўсім, як гаварылася, „мірам“ на сельскіх ды валасных сялянскіх сходах, дзе мелі голас таксама і няпісьменныя, імёны якіх у прыгавары сялян спаміналіся і за іх нехта падпісваўся.

І калі-б цяпер хапала аднаго прыгавару 40 бацькоў аб патрэбе школы на сваёй роднай мове, дык паводле старога звычаю гэтыя прыгавары рабіліся-б, прасьцей ставячы ўсю справу, ня кажучы ўжо аб тым, што гэткім чынам школьная справа набірала-б у вачох насяленьня *характар грамадзкі*, ня маючы таго як-бы *прыватнага* характару, які вынікае са спосабу падаваньня асабістых дэкляраціяў.

Няма тых фармальных труднасьцяў, якіх нельга перамагчы, хочучы дасягнуць свае мэты. І мы пэўны, што беларускае насяленьне заўсёды патрапіць сваё законнае жаданьне роднае школы аформіць так, як гэта вымагаецца, хоць ведаем добра, як трудна будзе рабіць *асабістую* дэклярацыю аб мове ў школе якому-нібудзь беднаму і ў дадатак няпісьменнаму беларусу-селяніну, або якой-нібудзь няпісьменнай удаве - беларусцы, дбаючы аб навуцы сваіх дзяцей.

Тэндэнцыя утраквізму (двумоўнасьці) ў школе выглядае ясна з § 10 выканаўчага распараджэньня, дзе сказана: „Аб факце ўнясеньня бацькамі прынамсі 40 дзяцей жаданьняў увядзеньня ў школе недзяржаўнае мовы навучаньня школьны інспэктар перад днём 1-га лютага паведамляе насяленьне таго школьнага абводу, з мэтай даць магчымасьць застаўшайся часьці насяленьня ўнясеньня жаданьняў навучаньня на дзяржаўнай мове“.

Як будзе ў практыцы працаваць двумоўная школа пакажа жыцьцё, а тымчасам яно ўжо паказала, што там, дзе згары насяленьню беларускаму давалася незразумелая для дзяцей - беларусаў польская мова ў школе, рэзультатам было нежаданьне бацькоў пасылаць сваіх дзяцей у гэткую школу, штрафы за гэта і пэўна-ж непапулярнасьць самое школы сярод насяленьня, што само па сабе зьяўляецца недапусьцімым у Рэспубліцы, бо школа, як расаднік прасьветы, мусіць карыстацца народнай пашанай і ўвагаю. Вывад просты што яна мусіць быць такою, якая адпавядае народнаму жаданьню і справа утварэньня яе павінна вырашацца бяз лішняга фармалізму.

Перадапошні 16 § распараджэньня Міністра Прасьветы кажа аб тым, што праграма як двумоўнае, так і аднамоўнае (напр., беларускае) школы будзе акрэсьлена асобным распараджэньнем, дык аб праграме гэтай, пакуль што, сказаць няма чаго.

У пераходны момант, г. знач. у 1924 / 1925 школьным годзе срок падачы дэкляраціяў аб школе устанаўляецца 31-е сакавіка сёлетняга году, звычайна срок гэты—31 сьнежня.

Дэклярацыі можна падаваць і ў працягу ўсяго году, але калі, напрыклад, хто падасьць дэклярацыю школьнаму інспэктару аб патрэбе школы з беларускаю моваю навучаньня пасьля 31 сакавіка с. году, дык вырашэньне гэтае справы ні можа адбыцца ў 1925/1926 школьным годзе і справа зацягнецца на наступны школьны год.

Да 31 сакавіка застаецца 2 з лішкай месяцы і за гэты час бацькі беларускіх дзетак павінны кожны асабіста падаць павятоваму школьнаму інспэктару дэклярацыю, паводле устаноўленай формы, якую мы сёньня зьмяшчаем на шпальтах нашае газэты.

Фармальнасьць гэтая труднаватая для нашага народу ў практыцы, але ў імя нашай нацыянальнай будучыны мусім ня спыняцца перад труднасьцямі, каб родная школа для дзяцей нашых адваявала сабе рэальнае права на існаваньне.

## АД РЭДАКЦЫІ.

Паведамляем, што ўсім падпісчыкам нашае газэты, падпісаўшымся ў сваім часе да канца 1924 году, Бел. Календар разасланы бясплатна. Калі хто не адтрымаў календара, то просім паведаміць Рэдакцыю.

## ПАЛІТЫЧНАЯ ХРОНІКА.

### У Польшчы.

„Kur. Warsz.“ паведамляе, што сярод сяброў соймавае бюджэтнае камісіі заўважаецца імкненьне да хутчэйшага прынятку бюджэту на 1925 год. Ёсьць надзея, што бюджэт будзе прыняты Соймам да 1-га сакавіка.

Прэм'ер - міністар Ул. Грабскі заявіў супрацоўніку „Kur. Polsk.“, што справа пазыкі ў Амэрыцы знаходзіцца ў самым найлепшым палажэньні. Пазыка будзе рэалізована магчыма хутчэй і на вельмі выгадных варунках.

20-га гэтага студня ў Міністэрстве Прасьветы адбылося ўрачыстае дарученьне вялікае стужкі ордэну „Адраджэньне Польшчы“ праваслаўнаму мітрапаліту Дзянісу.

Соймавая камісія пастанавіла аб зьменах у уставе цывільнага судаводзтва ў былым расейскім заборы. Справы, па сутнасьці няспрэчныя, ў акружным судзе будуць разглядаць адным судзьдзёю. Компэтэнцыя міравых судзьдзяў пашырана на справы да 1000 злот. У ўсходніх ваяводзтвах міравому суду будуць падсудны справы аб невялікай рухомасьці, якія пастаюць з права насьледства.

Соймавай камісіяй пастаноўлена адмовіць у выдачы суду у двух выпадках пасла Дзідзюха (радык. сялянск. партыя), паслоў Гломбінскага, а таксама Морачэўскага і таварышоў з P. P. S. У апошнім выпадку камісія ўстанавіла недапусьцімасьць праку-

рорскае прапазыцыі аб выдачы, бяручы пад увагу, што йшла гутарка аб абвінавачаньні паслоў за ўнесены ў Сойм запрос, што пярэчыла-б канстытуцыі.

„Słowo“ піша, што ў урадовых кругох называюць кандыдатуры п. п. Буркевіча і Мэх-Рэміпэўскага на пасаду Наваградзкага ваяводы і п. Домбскага, луцкага старасты, на пасаду Валынскага ваяводы.

Паслы Міхал Янэчэк, Валенты Точэк і Тадэуш Таргоўскі выступілі з групы пасла Брыля (сялянскі саюз) і ўвайшлі ў клюб P. S. L.

**За граніцай.**

19-га гэт. студня ў **Парыжы** адбыўся вялікі сход уласьнікаў каштоўных папераў расейскага царскага ўраду. Сход паслаў да **савецкага** прадстаўніка ў **Францыі** Красіна дэпутацыю з трэбаваньнем аплаты царскіх даўгоў. Гэткая самая дэпутацыя была паслана і да прэм‘ер-міністра Эрыё.

У **Лёндан** прыехаў **румынскі** прэм‘ер-міністар Братіану. Падарожа яго знаходзіцца ў зьвязку з пытаньнем аб даваенных даўгох.

З **Амстэрдаму (Голяндыя)** паведамляюць, што маскоўскі корэспондэнт „Extrablated” перадае: У дзень абвешчаньня пастановы Цэнтральнага Камітэту Рас. Кам. Парт. аб звальненьні Троцкага, сябры савету і чэкістыя адтрымалі пісьмы, ў якіх ім пагражалі сьмерцяй, калі з галавы Троцкага спадзе хоць адзін волас. У той самы дзень тры замаскованыя асобы напалі на галоўнага праціўніка Троцкага Оганесава й забілі яго. Абодвы яны ўцяклі.

Паміж **Японіяй** і **С. С. Р. Р.** падпісаны дагавор, які прадбачыць прызнаньне японскім урадам радавага ўраду з часу ратыфікацыі дагавору, г. знач. цераз два тыдні. Усе дагаворы царскіх часоў унявaжнены, а пытаньне аб даўгох будзе ўрэгулёвана пасьля.

З Лёндану тэлеграфуюць, што рэвалюцыйнае **кітайскае** войска пацярпела паражэньне пад **Шанхаем** дзякуючы таму, што ўрадоваму войску дэлі падмогу белыя расейскія аддзелы, навярбованыя з расейскіх уцекачоў, прабываўшых у **Манджурыі**. Гэтыя ўцекачы, баючыся благіх пасьледзтваў савецка-кітайскага паразуменьня, падтрымліваюць увадовае кітайскае войска.

У **Эстоніі** ўлады зацьвярдзілі статут самаабароны. Дасюль запісалася 100.000 ахвотнікаў. Самаабарона знаходзіцца ў распараджэньні ваеннага міністэрства, якое назначае камэндантаў і дае аддзелам зброю. Бюд'жэт роўны 30 мільёнам марак. Асыгнована на гэтую мэту дасюль 13 міл. мар.

**Амэрыканскі** сэнат 43 галасамі проці 22 адкінуў прапазыцыю пачаць дыскусію над справай лепшага азбраеньня 16 баявых караблёў амэрыканскага флёту. Гэта сьведчыць аб перамозе паглядаў прэзыдэнта Куліджа, які выказваўся за неабходнасьць раззбраеньня і ашчоднасьці.

„Neue Freie Presse” паведамляе з **Загрэбу (Югаславія)**, што апэляцыйны суд рашыў, што няма прычыны судзіць абвінавачаных сяброў кіраўніцтва сялянска-рэспубліканскай партыі Радзіча.

У **Альбаніі** парлямэнт аднагалосна абвясьціў рэспубліку, пастанавіўшы адначасна сьвяткаваць дзень яе абвешчаньня—21 студня.

Згодна з заявай высокага камісара, 18-га лютага адбудзецца ў **Жэнэве** паседжаньне камітэту юрыстаў **Лігі Народаў** па пытаньню аб польскай чугуначнай дырэкцыі ў **Гданску.**

**Чэхаславацкія** епіскапы апублікавалі ў прэсе адозву, якая падкрэсьлівае няпрыстойнасьць цяперашніх дамскіх вопратак, а таксама й навейшых танцаў. Адозва заклікае бацькоў, каб змушалі сваіх дачок захоўваць болей прыстойнасьці ў сэнсе вопратак.

Венская газэта „Arbeiter Zeitung“ паведамляе з Рыгі, што заместа Троцкага камандзерам чырвонае арміі будзе назначаны Дзяржынскі.

У **баўгарскай** сталіцы **Софіі** прасьледаваныя паліцыяй два анархісты схаваліся ў доме на прадмесьці і пачалі адтуль страляць да паліцыі з рэвальвэраў. Каб запалохаць анархістаў і змусіць іх паддацца, паліцыя падпаліла часьць дому. У рэзультаце анархісты падчас страляніны былі забіты.

## Выканаўчыя правілы да языковага закону аб школьніцтве.

Ў № 3 „Dziennika Ustaw“ ад 14 студня 1925 г. апублікованы выканаўчыя правілы да закону аб мове ў школьніцтве. На аснове гэтых правілаў, даводзім да агульнага ведама заінтэрасованых справай адкрыцьця беларускіх пачатковых школаў, якія фармальнасьці трэба прарабіць, каб, на аснове закону, адчыніць новую беларускую пачатковую школу ці перарабіць істнуючую польскую на беларускую.

Пражываючыя ў адным школьным абводзе бацькі (калі няма бацькі— матка, калі няма й маткі, дык апякун), якія жадаюць вучыць дзяцей у роднай мове, павінны злажыць (кожны асобна) павятоваму школьнаму інспэктару дэкляpацыю (подпіс павінен быць сьцьверджаны натарыюсам, альбо судзьдзёю, ці валасным войтам, альбо старастай). Узор дэкляpацыі гэткі:

### ДЭКЛЯРАЦЫЯ.

Я, ніжэйпадпісаны (ая) .......................(імя і прозьвішча) ______________ грамадзян...... Польскай Рэспублікі, беларускае нацыянальнасьці, жыхар вёскі ..............................., ______________ валасьці, ______________ павету, як бацька (матка, апякун) дзіцяці (дзяцей) школьнага веку: 1 (імя) .............. 2....................(імя)______________ на аснове артыкулу 3 закону ад 31 ліпня 1924 г., маючага ў сабе некаторыя пастановы аб арганізацыі школьніцтва (Dz. Ustaw Rz. P. Nr. 79 poz. 766) жадаю ўвядзеньня ў істнуючую (маючую паўстаць) дзяржаўную пачатковую школу, ў..............................(*назова мясцовасьці*)................................беларускае мовы як выкладовае.

Дня______________192...... году.

..............................................

(*уласнаручны подпіс*).

Да Школьнага інспэктара ў..............................................

Гэтыя дэкляpацыі трэба складаць не пазьней, як 31 сакавіка 1925 году, а ў наступных гадох не пазьней як 31 сьнежня, каб у будучым вучэбным годзе жаданьне бацькоў было выканана.

Гэтакіх дэкляpацыяў трэба злажыць інспэктару **ня менш як сорак** (калі балей, дык яшчэ лепш). Апрача таго, паведамленьне аб злажэньні дэкляpацыяў з прозьвішчамі, тых што іх злажылі, трэба пераслаць у Цэнтральную Раду Беларускага Т-ва „Прасьвета“.

Пратаколы аб адчыненьні школаў рабіць як раней, г. зн.: подпісы бацькоў мусяць быць сьцьверджаны войтам воласьці і пратакол мусіць быць скірованы да школьнага інспэктара разам з заявай валаснoе рады, аб тым, што воласьць бярэ на сабе абавязак даць будынак, апал, сьвятло, лаўкі і г. д. Копію пратаколу трэба пераслаць у Цэнтральную Раду Т-ва „Прасьвета“.

## АБВЕСТКА.

**Асобы, скончыўшыя Беларускія Гімназіі, якія жадаюць трымаць матуральны экзамен дзеля паступленьня ў вышэйшыя навуковыя заклады Польшчы, павінны зарээстравацца ў Т-ве „Прасьвета“** (Wilno, ul. Ludwisarska, 4).

*Прэзыдыум Цэнтр. Рады Т-ва „Прасьвета“.*

ГЭНРЫХ СЕНКЕВІЧ.

## ЛЯТАРНІК.

(*Пераклад з польскага*).

### I.

Адзін раз здарылася, што лятарнік у Аспайнвэль, недалёка Панамы, прапаў няма ведама куды. Дзеля таго, што гэта здарылася ў час буры, думалі, што няшчасны мабыць сайшоў на самы бераг скалістага вастраўка, на якім стаіць маяк і яго змыла хваляй. Гэтая дагадка ня была беспадстаўнай, дзеля таго, што на другі дзень не знайшлі яго чайкі, стаяўшай на скалістым пабярэжжы. Гэткім чынам, было свабоднае месца лятарніка, якое трэба было якнайхутчэй заняць, дзеля таго, што маяк мае вялізнае значэньне, як для мясцовага руху, так сама й для параходаў, якія ідуць з Нью-Іорку ў Панаму. Заліў Москітоў мае шмат пясчаных меляў і наносаў, між якімі навет удзень дарога цяжкая, а ўночы, асабліва праз імглу, якая часта падымаецца на гэтай, сагрэтай тропічным сонцам, вадзе, амаль што зусім немагчыма. Адзіным тады праваднікoм для параходаў, якіх шмат тут пераплывае, бывае сьвятло маяка. Клопаты знайсьці новага лятарніка выпалі на долю быўшага ў Панаме консуля Злучаных Штатаў, а гэта былі клопаты немалыя, перш-наперш дзеля таго, што трэба было знайсьці наступніка бязумоўна ў працягу дванаццацёх гадзін, а па другое, дзеля таго, што наступнік павінен быў быць вельмі сумленны чалавек, дык нельга было прымаць няма ведама каго; ды яшчэ на бяду кандыдатаў наагул ня было. Жыцьцё на маяку вельмі цяжкае і зусім недаспадобы гультаяватым людзям Паўдня, якія любяць свабоднае валачайства. Лятарнік гэта як вастрожнік. Толькі ў нядзелю ён мае права пакідаць свой скалісты вастравок. Чайка з Аспайнвэль прывозіць яму раз на дзень харчы і сьвежую ваду, а пасьля пасланцы хутка адплываюць назад, і на ўсенькім вастраўку нікагусенькі нямашака. Лятарнік жыве на маяку, утрымоўваючы яго ў парадку; ўдзень падае сыгналы, вывешваючы рознаколерныя сьцягі, паводле ўказаў барoмэтра, а ўвечары запаляючы сьвятло. Гэта ня было-б надта цяжкой работай, калі-б ня тое, што, каб зьнізу прабрацца на самую гару маяка, трэба было прайсьці чатырыста крутых і надта высокіх усходаў, а лятарнік часам павінен зрабіць гэту падарожу й колькі разоў на дзень. Наагул, гэта жыцьцё манастырскае, а навет болей—пустыннае. Дык няма дзіва, што п. Ізаак Фальконбрайдж шмат меў клопату, скуль знайсьці наступніка на месца нябожчыка, і зусім зразумелая была ягоная радасьць, калі раптам наступнік зьявіўся яшчэ ў той самы дзень. Гэта быў чалавек ужо стары, гадоў сямёхдзесяцёх або й балей, але здаровы, выцягнуты, з жаўнерскай выпраўкай. Валасы меў зусім белыя, твар запечаны сонцам, як у крэолаў, але па сініх ягоных вачох відаць было, што гэта чалавек не паўдзённы. Твар яго быў змучаны ды сумны, але чэсны. З першага пагляду ён спадабаўся Фальконбрайджу. Трэба было толькі даведацца ад яго, хто ён. Дзеля гэтага пачалася такая гутарка:

— Вы скуль?

— Я паляк.

— Што вы дагэтуль рабілі?

— Валачыўся.

— Лятарнік павінен любіць сядзець на адным месцы.

— Хачу адпачыць.

— Ці служылі калі? Маеце пасьведчаньні з урадовай службы?

Стары чалавек выцягнуў з-за пазухі выліняўшы кусок шоўку, падобны да адрэзку старога штандару, разьвярнуў яго і сказаў:

— Вось, мае пасьведчаньні. Гэты крыж я адтрымаў у трыццатым годзе. Гэты другі гішпанскі з карлістаўскае вайны; гэты трэці—

# Маленькі фэльетон.

## Справаздача паслоў, або сон выбаршчыка.

(Фантазія).

На Віленскай 12 была адтрымана ад Беларускага Пасольскага Клюбу тэлеграма гэткага зьместу: „Прыгатовіць усё да справаздачы. Калі падхадзячай салі не знайдзеце, дык можна наняць салю на Людвісарскай 4. Увайдзеце з гэтай мэтай ў перагаворы з прэзэсам Грамадзянскага Сабраньня, або з яго заступнікам, бо, як-ні-як, а і яны галасавалі за 16. Салю трэба ўдэкараваць гірляндамі і штандарамі. Дэкаратара абавязкова ўзяць з „Губэрнатарскае“. Паміж нацыянальных бела-чырвона-белых штандараў мусяць быць (і навет у добрай колькасьці) штандары чырвоныя. Плякатаў вывешваць ня трэба ніякіх, апрача можа—„няхай жывуць паслы“, дый яшчэ, як „консэквэнтна“ гэтаму — „няхай жывуць і выбаршчыкі“. Грошы высылаем усьлед за гэтым і... каб усё было ў парадку...

Хаця-ж тэлеграма гэтая і ня была для „Віленскай“ тым „абухом“ па галаве, як некаліcь — бо справа справаздачы ўжо была прадугледжана і абгаворана—але, як-ні-як, трывогі нарабіла добрай. Паляцелі кур'еры на Вострабрамскую 9... Пачаліся агульныя конфэрэнцыі... „Беларуская Доля“ і іншыя падгалоскі Пасольскага Клюбу ў не-залік пачалі друкавацца і выпушчаць пазачарговыя нумары... Спэцыяльныя інструктары выехалі на провінцыю... А на месцы — паседжаньні за паседжаньнямі... то пры адчыненых, то пры зачыненых дзьвярох... І калі на адным з гэтых паседжаньняў нечы голас з „галёркі“ запрапанаваў, каб запрасіць на конфэрэнцыю і прадстаўнікоў з Людвісарскай, то ўжо нэрвы ня вытрымалі — паднялася бура. Наш знаёмы, Асьлёрын, ак шарахнуўся з месца, каб хутчэй на Людвісарскую, то ледзь ня зьбіў з ног двох сваіх суседзяў... Пачаўся беспарадак — адны галасы крычалі, што трэба запрасіць, іншыя,—што ня трэба... І ні пратэсты пан. Алёны, ні пратэсты іншых паважаных дзеячоў, а можа толькі суровыя вочы дырэктара гімназіі, ды яшчэ кій старшыні—ўсадзілі і нашага знаёмага на месца і ўстанавілі цішу і парадак.

Але... як гукнулася на Віленскай—гэтак адгукнулася і на Людвісарскай... І там пачаліся конфэрэнцыі... і тамака ішлі паседжаньні адно па адным... І галоўныя пытаньні—аддаць салю, ці не аддаць—прыняць вучасьце, ці ня прыняць—выклікалі і ў іх спрэчкі і ім папсавалі нэрвы. Нарэшце, ўсе большменш прыйшлі да гэткага перакананьня: — справа „справаздачы“ — ёсьць справай апартыйнай і тычыцца ўсіх палітычных кірункаў. Калі на гэтай „справаздачы“—праваляцца паслы, — дык гэта зусім не пашкодзіць, а калі праваляцца выбаршчыкі—і гэта не пашкодзіць, бо і ў тым і ў гэтым выпадку ясна будзе а'дзначана, што паслы адарваліся ад народу...

Сьледам за першай тэлеграмай, цераз некаторы час, прыляцела другая, з запытаньнямі: „як стаяць справы? Дзе ёсьць нанятая саля? Ці прыняты ўсе належныя меры? Грошы ўсьлед за гэтым высылаем і... каб ўсё было ў парадку“...

З Віленскай паляцеў адказ: „Грошай ад вас яшчэ ніякіх не адтрымалі. Справы ідуць так сабе — з аднаго боку: ня можна ня прызнацца, а з іншага ня можна не сазнацца. Нажаль салю прышлося наняць на Людвісарскай. Грошай за салю ня хочуць браць і дэкаруюць навет на свой кошт. Абсалютна адмовіліся вывешваць чырвоныя штандары. Да двох плякатаў нашых абавязкова хацелі дадаць трэці: — „Круці Гаўрыла“, але мы горача запратэставалі і дагаварыліся, каб ніякага „Гаўрылы“ не успамінаць і што, як кампраміс, яны могуць неяк незаметна, дзе-колечы на дзьверах, вывесіць маленькі плякацік: „не перррекрути мамочка“—быццам гэта тычыцца ключа, які будзе у дзьверах. З провінцыі маем ня надта добрыя весткі—быццам нашыя інструктары разам з валэйшаўцамі п'юць самагон; ужо двое з нашых перакінулася на іх бок і пачалі чмуціць нашых выбаршчыкаў. Трэба прыняць меры. Чакаем інструкцыяў“.

Прайшло некалькі дзён. Уся падгатаваўчая праца і тэхнічныя патрэбы па арганізацыі „справаздачы“ былі закончаны... Прыехалі некаторыя з паслоў. На апошняй конфэрэнцыі паслоў разам з „Віленскай“ і „Вострабрамскай“, пры адчыненых дзьвярох, між іншымі, была ухвалена і рэзалюцыя, якая датычылася і „Людвісарскай“: „Ніякіх паасобных запросін для іх не высылаць, але калі прыдуць — упусьціць і быць зусім карэктнымі. Адкрыта і выразна ўсім паказаваць, што мы іх не баімося і, што яны для нас абсолютныя „нулі“.... А на зачыненым паседжаньні, куды ўваход быў ня кожнаму даступны, гаварылася зусім іншае: „трэба быць, панове, *начеку*—расьпінаўся адзін з прысутных паслоў—яны за апошні час умацніліся і ня толькі ў Варшаве, я маю чуткі, што і на доле—ў народзе... Ужо настаўніцкім зьездам кальнулі нас... Зробяць яшчэ і палітычны. Вось дзеля гэтага—на кожнае цяперашнее іхняе выступленьне трэба арганізованна адпарыраваць... трэба, або зусім не даваць ім гаварыць, або, не разьбіраючыся ў ніякіх спосабах і паліваючы іх рознымі брудамі, рабіць так, каб ніхто ня бачыў, што ў іх ёсьць нейкая сіла... трэба, і мы гэта зробім—стукнуў ён па стале—і дакажама, што ніякае палітычнае, апрача нас, партыі ня было, няма і ня будзе!!.. і ня будзе! яшчэ раз паўтараю вам—пракрычаў ён ужо не сваім голасам... Старшыня пазваніў—„паночку, пане пасол! ня крычы так... мы яшчэ не на справаздачы і самі добра ведаем, што і як рабіць!...

— Але я вам кажу, — ня сьціхаў разгарачаны пасол—ёсьць толькі мы... і хто ня з намі—іх няма, няма зусім.. як той казаў, можа яны і ёсьць, але мы іх ня бачым і ня хочам бачыць... і ўсе гэтыя самазванныя дактары, палкоўнікі, адвакаты...

Званок старшыні перарваў разгарачанага пасла — прыйшла апошняя тэлеграма — справаздача вызначана праз два дні...

Г-ка.

(*Далей будзе*).

---

# Агляд прэсы.

„Echo Warsz.“ піша:

Аднэй з прынцыповых справаў, зьвязаных з разьвіцьцём польскай дзяржаўнасьці, зьяўляецца пытаньне аб самаўпраўленьні і яго разьвіцьці.

Пераходзячы да значэньня гэтай справы для нашага краю, газэта разважае так:

> Што датычыцца ўсходніх земляў, дык урадовыя проекты не нясуць для іх ніякіх адасобленнасьцяў (odrębności) апрача такіх, якія самі здолеюць разьвінуцца. Адносна да цяперашняга палажэньня, аднак гэта значна направіць сытуацыю. Трэба прыпомніць тыя адносіны, якія стварыла на гэтых землях расейская адміністрацыя. Царскі мэтод урадаваньня апіраўся на абсалютнай цэнтралізацыі, на ўтрыманьні масаў у цемры і вернай паслухмянасьці, а таксама на нівэляваньні грамадзкага жыцьця да аднастароннага і бяздушнага шаблёну. Дык няма дзіва, што гэткі мэтод павінен быў натварыць людзей бязграматных, зусім неўсьвядомленых у сэнсе дзяржаўным і грамадзкім, напалоханых і тупых. Апроч таго, даўгалетняя вайна і окупацыя значна прычынілася да абядненьня тамашняга насяленьня. Трэба аднак верыць, што ня гледзячы на гэтыя труднасьці ўтварыць запраўднае самаўпраўленьне на ўсходніх землях будзе ня толькі дабрадзейнасьцю для істнуючых там гаспадарчых адносін, але адначасна будзе вельмі добрай для насяленьня школай, дзеля таго, што прыймаючы ўчасьце ў публічнай адміністрацыі, вышкаліцца з грамадзкага боку, ўсьвядоміцца дзяржаўна ды набярэ пачуцьця адказнасьці і патрэбы законнага парадку. Ведама, што толькі дапłыў людзей новага пакаленьня, выхаванага дзяржавай паводле прынцыпаў захаду, дасьць самаўпраўленьню на ўсходніх крэсах элемэнт, які будзе магчы абясьпечыць правільнае функцыянаваньне самаўпраўленьня і яго разьвіцьцё.

---

Катастрофальнае палажэньне польскага тэатру ў Вільні ўсё часьцей выклікае на старонках тутэйшай прэсы артыкулы, якія заклікаюць грамадзянства і ўрад ратаваць знайшоўшуюся ў небясьпецы польскую культурную ўстанову, якой дэфіцыты з кожным голам растуць.

„Dzien. Wileński“ па гэтаму поваду, між інш., піша:

> „Дапамагчы ў першую чаргу павінен Дэпартамэнт Культуры і Мастацтва, назначыўшы даволі вялізную субсыдыю. Аднак дзеля дзяржаўных прычын Дзяржаўны Скарб незаўсёды можа здаволіць усе патрэбы, якія высоўвае жыцьцё, і грамадзянства не павінна аглядацца толькі на дзяржаўныя касы, але балей рахаваць на сваю ўласную ініцыятыву і сілы. Магістрат павінен дапамагчы, памяншаючы плату за тое, што тэатр бярэ ад гораду, а публіка, ходзячы ў тэатр.

Аднак, ня гледзячы на гэтыя заклікі, публіка як ня ходзіць, так ня ходзіць.

Гожа ад'значыць, што Дэпартамэнт Культуры, які год у год ўсё-ж такі падтрымлівае польскі тэатр, калі два гады назад беларускі тэатральны гурток зьвярнуўся да Дэпартамэнту з просьбай аб невялічкай дапамозе, той ня даў ня толькі грошай, але навет ніякага адказу.

---

*Газэту прачытай і перадай суседу!*

*Той, хто умее чытаць, ніколі не паляну́йся прачытаць няпісьменнаму!*

---

гэта француская легія; чацьвёрты я дастаў у Вэнгрыі. Пасьля я ваяваў у Штатах з паўдзённымі, але там ад'знакаў не даюць — дык вось папера.

Фальконбрайдж разьвярнуў паперу і пачаў чытаць.

— Гм! Скавінскі? Гэта вашае прозьвішча?.. Гм!.. Два штандары здабыў уласнымі рукамі ў атацы на штыхі... Вы былі адважным жаўнерам!

— Я патраплю быць і сумленым лятарнікам.

— Трэба там штодня колькі разоў уваходзіць на маяк. Ці ногі ў вас здаровыя?

— Я прайшоў пехатой *плены*. (Пленамі завуцца вялізныя сьцяпы між Нью-Іоркам і Каліфорніяй).

— *All right!* *) Ці вы знаёмы з марской службай?

— Тры гады я праслужыў на караблі, паляваўшым на кітоў.

— Вы маеце розныя прафэсіі?

— Ня меў толькі спакою.

— Чаму?

Стары чалавек сьціснуў плячыма.

— Гэткі лёс ..

— Усё-ткі на лятарніка, мне здаецца вы стараваты.

— *Sir!* **) — раптам пачаў казаць кандыдат парушаным голасам. — Я надта зморганы і разьбіты. Шмат, як бачыце, я пражыў. Гэтае месца—гэта адно з такіх, якое я страшэнна хачу адтрымаць. Я стары, мне патрэбны спакой! Я павінен сабе сказаць: тут будзеш сядзець, тут твой порт. Ах, *Sir!* Гэта толькі ад вас залежыць. Другі раз можа гэткая пасада ня здарыцца. Якое шчасьце, што я апынуўся ў Панаме... Малю вас... Дадушы, я, як той карабель, каторы, калі не ўвайдзе ў порт, дык патанець... Калі хочаце ашчасьлівіць старога чалавека... Прысягаю, што я чэсны, але... годзі ўжо мне гэтага валачайства...

У сініх вачох старога была гэткая глыбокая просьба, што Фальконбрайдж, які меў добрае, простае сэрца, быў парушаны.

— *Well!* ***) — адказаў. — Прымаю вас. Будзеце лятарнікам.

Твар старога заясьнеў нязвычайнай радасьцю.

— Дзякую.

— Ці можаце сягоньня ехаць на маяк?

— Але.

— Дык *good bye!*.. ****) Яшчэ адно слова: за кожную службовую неакуратнасьць пойдзеце ў адстаўку.

— *All right!*

У той-жа самы дзень увечары, калі сонца закацілася на другую палову мора, а пасьля прамяністага дня надыйшла ноч бяз змроку, новы лятарнік відаць быў ужо на сваім месцы, бо лятарня кінула, як заўсёды, на ваду свае снапы яснага сьвятла. Ноч была зусім спакойная, ціхая, ўзапраўды тропічная, пранікнутая яснай імглой, рабіўшай навокал месяца вялікае мягкае бясконтурнае кола. Толькі мора гуло, дзеля таго, што пачынаўся прыліў. Скавінскі стаяў на бальконе каля вялізарных лямпаў, зьнізу падобны да чорнага маленькага пункту. Прабаваў згуртаваць свае думкі і абдумаць сваё новае палажэньне. Але яго думкі не хацелі правільна разьвівацца. Ен адчуваў нешта гэткае, што адчувае цкованы зьвер, калі ўрэшце схаваецца ад пагоні на нейкай недаступнай скале або ў пячуры. Прыйшоў, нарэшце, для яго час спакою. Пачуцьцё бясьпекі напаўняла ягоную душу нейкай неапісальнай роскашай.

Пералажыў Ю. М.

(*Працяг будзе*).

---

*) Усё у парадку.

**) Паночку!

***) Добра.

****) Бывайце здаровы.

